Народная Воля 17 КАСТРЫЧНІКА 1997 г.

# смагі, знішчае беларускую вёску

А можа здарыцца і такое: спрацуе сумна вядомая ідэя Адольфа Гітлера, якая штурхне нацыю паправіць сваю беднасць за кошт захопу чужых земляў?.. Хто можа паручыцца за п'янага, дэмаралізаванага лайдака?

Не падумайце, што я выступаю за "сухі" закон. Не выступаю і за рашучую забарону алкагольных напояў. Гэта, як паказала практыка, неэфектыўныя меры. Гісторыя даўняя і нядаўняя дае нам шмат прыкладаў таго, як мы няўклюдна змагаемся з "зялёным змiем". Пра гэта скажа вам любы міліцыянер. Што мы толькі не выкарыстоўвалі: і сакрэтных агентаў, і выпадковых стукачоў, і рэйды па хмызняках, і спецыяльна вывучаных сабак, розныя ананімкі, — вынік нязначны. Голь, як кажуць, на выдумку хітрая. Памятаеце, як не было дражджэй? Што, не гналі? Гналі! Хто з кефіру, хто з таматнай пасты, хто з буракоў і цукерак, хто з традыцыйна сялянскіх прадуктаў — жыта і бульбы.

Дык навошта траціць столькі сіл і магчымасцяў на безвыніковую працу? Здаецца, яшчэ ні ў адной краіне такім чынам не дамагліся станоўчых вынікаў. Трэба, на мой погляд, ісці нетрадыцыйным для нас шляхам. І традыцыйным для іншых краін.

Дабрабыт чалавека — гэта люстэрка яго здароўя, люстэрка грамадства і дзяржавы. Да дабрабыту мы ў апошнія восемдзесят гадоў ідзём шляхам прымусу. Прымушалі і прымушаем працаваць чалавека на поўную сілу, а за вынікі працы плацім, можа, сотую частку таго, што ён заробіць. Здавалася б, што мы, столькі зарабіўшы на недаплаце сваім людзям, маглі б пабудаваць усім самыя шыкоўныя кватэры і катэджы, добрыя аўтамабільныя і чыгуначныя дарогі, пакласці асфальт у вёсках і на прасёлках, мець удосталь уладкаваных месц адпачынку для людзей і яшчэ шмат чаго, што патрабуе душа чалавечая. А што мы мелі і маем? Мелі самую моцную армію, самую страшэнную ваенную тэхніку, атамныя бомбы і стратэгічныя ракеты, начыненыя самай смертаноснай атрутай. А мужык на вёсцы да гэтага часу па калена хлюпае ў кароўніках і свінарніках, што здалёк нагадваюць панскія палацы, як і сто гадоў назад ходзіць "да ветру" за хлеў, глытае пыл на вясковых вуліцах, ходзіць пешшу ў бліжэйшыя і буйнейшыя вёскі за хлебам, запалкамі, соллю, рыдлёўкай абрабляе свае соткі, нарэшце, не можа за сваю зарплату купіць гумавыя боты, якія, дарэчы, мусіць спецыяльна выpабляюцца для таго, каб у селяніна хутчэй адняліся тыя дзвенагі, на якіх стаіць наша дзяржава і ўсё грамадства.

Чалавека і на вёсцы і ў горадзе акружала і акружае шчыльная заслона несправядлівасці, падману, махлярства, пустаслоўя і беднасці. Можа, адчуваючы сваё бяссілле ў такіх абставінах, душэўную роспач, людзі і па гэтай прычыне п'юць? На мой погляд, галоўная прычына заключаецца ў тым, што нізкі ўзровень дабрабыту, нягледзячы на прывітыя нам сацыялізмам мінімальныя патрэбнасці, узахвочвае большую частку людзей піць. І яшчэ красці, каб збыць крадзенае і прапіць.

Неяк аднаго разу я запытаў у мясцовых мужыкоў:

— Ну, а калі б, скажам, вам за вашу працу плацілі па тры тысячы долараў у месяц, ці кралі б?

— Кралі б! — упэўнена адказалі. — Вось памяркуй сам: тыя долары аддасі жонцы, а яна, ваўчыца, табе на кішэнныя расходы нават капейкі з таго долара не дасць. Значыць, каб выпіць, трэба дзе-небудзь штосьці ўкрасці. Ды што ты здзіўляешся, у крыві ў нас гэта! Пашлі ты мяне працаваць туды, дзе, скажам, канцылярскія скрэпкі вырабляюць, я ўсё роўна кішэні напхаю тымі скрэпкамі, хоць яны мне тысячу год не спатрэбяцца. Вось такая, брат, арыфметыка...

А мне падалося, што гэта не арыфметыка, а нешта такое, што мяжуе з геннай інжынерыяй...

Не, я не вяду да таго, каб жонкі ўзахвочвалі сваіх мужыкоў да п'янства. Крый мяне Божа! Тут і гаворкі ніякай не можа быць. Мне хочацца паразважаць з вамі вось пра што. Той-сёй з горкіх п'яніц калі-нікалі гаротна ўздыхае, што моцныя і пахмельныя напоі дарагія ў цане, што іншы раз гадзінамі трэба шукаць грошы (пазычыць, выпрошваць, красці, а, бывае, і падхаўтурыць), каб наскрэбсці на шклянку жаданай вадкасці.

Але ж, калі па справядлівасці разважаць, то ці такая ўжо дарагая тая атрута? Успомніце, колькі каштуе зараз гарэлка. Прыкладна столькі, колькі каштуе дзесяць боханаў хлеба. А раней ці можна было за 1 руб. 40 кап. купіць бутэльку, скажам, "Маскоўскай"? Не! Толькі паўлітэрку "барматухі". Гарэлка каштавала раней у два, а пазней у шэсць-сем разоў болей. І тут у мяне ўзнікае крамольная думка: *а ці не сама дзяржава (як манаполька ў віна-гарэлачных вырабах) зацікаўлена ў тым, каб у нас людзі пілі беспрабудна, адпівалі розум, учынялі бойкі і панажоўшчыны, каб разбураліся сем'і, знікала ахвота працаваць і нараджалася цяга красці, існавала па-ранейшаму абыякавасць да ўсяго наўкола (у тым ліку і да штодзённых невырашальных праблем), да тых, хто кіруе так "удала", хто злоўжывае сваім службовым становішчам, хто эксплуатуе нас за капейкі і пры гэтым нерэгулярна выдае на пражытак тыя не грошы, а слёзы?*

Што гэта, хачу я спытаць у тых, хто яшчэ не атруціў свой розум гарэлкай, непаразуменне ці меры, якія знарок распачынаюцца на разбурэнне грамадства, дзяржавы? Ну, а калі гэта наўмысна, то ўсё гэта пахне нябачным у гісторыі генацыдам цэлай нацыі, злачынствам перад чалавецтвам!

І калі гэта так, то чаго мы тады маўчым? Што, мы ўсе, хто яшчэ цвяроза глядзіць на тое, што творыцца наўкола, змірыліся з такім становішчам? Што, у нас няма сродкаў ўздзеяння на ўрад, няхай сабе і нелегітымны парламент, якія глядзяць на ўсё гэта скрозь пальцы? І нарэшце, што на ўсё гэта можа адказаць прэзідэнт, як кіраўнік краіны, які, як агульнавядома, неахвочы да чаркі? Ён жа павінен добра ведаць вёску і добра ведаць тое, ад чаго яна нясецца ў п'янае небыццё. Ды што з тых слоў?! Прэзідэнт за тры гады свайго праўлення шмат чаго нагаварыў-наабяцаў, ды нешта, як ні ўглядайся, ніякіх зрухаў не відаць. Наступіў час пустых слоў, пустых абяцанак, адной салодкай маны? Дзіўна, што засталося даволі шмат людзей, якія яшчэ вераць... Хоць, не ў крыўду будзе сказана, прыкмечана здаўна: абяцанка, як цацанка, а дурню — радасць...

Дзе-нідзе праскокваюць звесткі, што эксперыментальна выпрабоўваецца лякарства, якое быццам бы можа вылечыць п'яніцу ад вялікай смагі. Колькі за доўгія нашы гады мы начуліся такіх навін?! У нас эксперыментавалі ўсе, хто не ленаваўся. Але ніхто ніколі як след не аналізаваў вынікаў. Праўда, у час "сухога" закону, гэта недзе 1985—1987 гады, з'явіліся аналітычныя афіцыйныя і падпольныя звесткі аб праблеме п'янства ў славянскіх народаў. Але зноў жа без вывадаў, акрамя таго, што піць — гэта дрэнна. А вось пра тое, якія варта зрабіць вывады, каб народ трохі астудзіў сваё жаданне кранаць "жылку", якая прымушае апускацца людзей на дно жыцця, не было.

А выцвярэзнікі, звальненні з работы, рэйды па самагонных кропках, прафілакторыі (некаму ж розуму хапіла, каб гэтак паважна назваць установу за калючым дротам, дзе быццам бы лечаць ад алкагалізму), ананімныя пункты лячэння і гэтак далей — не што іншае, як чарговыя эксперыменты над жывымі людзьмі афіцыйных улад і махлярствы дзялкоў ад медыцыны, якія нажываліся і нажываюцца, прыдумваючы розныя лекі і методыкі, абараняючы дысертацыі, выдаючы ўсю гэтую лухту за эфектыўныя сродкі ад алкагольнай эпідэміі. Тыя лекі, методыкі, прафілакторыі і дысертацыі дапамагаюць п'яніцам гэтак жа, як усім нам дапамагаюць сцвярджальныя словы вядомага паэта: "Тот, кто утром кофе пьет, никогда не устает!". Аматары пякучай вадкасці гэты кліч прымяняюць пасвойму, замяніўшы слова "кофе" на слова "піва".

Нідзе яшчэ ў свеце не прыдумалі такіх лекаў, якія вылечваюць алкагольную залежнасць арганізма. Алкагалізм ідзе ў адным гурце з такімі хваробамі, як СНІД, рак, наркаманія...

Дык што ж дапаможа п'яніцам, алкаголікам і іншым аматарам моцных напояў асвяжыць галаву, узяцца за розум, наталяць смагу кока-колай або нашым звычайным хлебным квасам?

Разумею, што гэта пытанне, на якое адказаць надзвычай цяжка, як цяжка даць адзіна эфектыўны рэцэпт. Гэтак жа неверагодна, як і ўставіць свой розум гэтым "музыкам на душэўнай жылцы". Але ўсё ж асмелюся хоць бы паразважаць на гэтую тэму, прапанаваць сваё бачанне выхаду з гэтай п'янай эпідэміі, каб хоць часткова зменшыць армію "блудных сыноў" Айчыны.

Пачну з прыкладу. У нашай вёсцы засталося хіба чалавек пяць, якія не п'юць па розных прычынах, чалавек дзесяць п'юць час ад часу пры неабходных выпадках, астатнія — беспрабудныя п'яніцы, як іх тут называюць. Раскажу пра аднаго з нашых вяскоўцаў, Івана Шавардака. У вёсцы яго клічуць Ваняткам. Раней ён піў. Па гэтай прычыне ад'язджаў у нядужа далёкія мясціны. Калі вярнуўся, працягваў піць. Але аднаго разу прыходзіць да мяне і просіць:

— Налі мне, дзядзька, грамаў сто апошні раз і на гэтым стаўлю кропку. Рашыў завязаць.

Людзі, якія п'юць, вельмі часта даюць такія абяцанні. Я яму дужа не паверыў, але наліў. Праз тыдзень зноў прыходзіць. Ну, думаю, калі і на гэты раз папросіць, то я яму адаб'ю ахвоту. Але выглядае так, быццам з курорту вярнуўся. Знікла чырвань з твару, вочы ясныя, разумныя.

— Ці не на вяселле прыйшоў запрашаць? — пажартаваў я.

— Ды не, проста так зайшоў. Пасядзець-пагаманіць...

Апасля расказаў, што кінуў піць, але да яго прыйшлі дружбакі. Ён пачаставаў іх, пасядзеў крыху, але надакучыла адмаўляцца, тлумачыць, даказваць выпіўшай кампаніі, што больш не п'е, а таму сышоў з дому.

А прычынай таму, што кінуў піць, стала тое, што неяк сабраліся разам маці і ягоныя сёстры, два швагеры і пачалі размову: маці хворая, з гаспадаркай не ўпраўляецца, сёстры будуюцца, некаму дапамагчы. А Ванятка — сталяр, цясляр, пячнік, механізатар. Да таго ж ад бацькі засталіся розныя станкі, інструменты. Як яны яго ўгаварылі, пра тое не ведаю, але Ванятка сёстрам па дачы адбудаваў, цётцы падлогу перасцяліў, шмат каму каміны пераклаў, хаты цэглай абклаў. У сваёй гаспадарцы парадак навёў. І ўсё гэта за адзін год! Людзі дзіву даваліся, хвалілі. Памятаю, як адзін раз паскардзіўся:

— Калі піў, часу не было куды дзяваць, а цяпер вольнай хвіліны не маю.

Меркаваў адкрыць сваю справу, пашырыць сталярную майстэрню, выpабляць аконныя рамы, дзверы на самы сучасны густ.

Нездарма я тады задумаўся над ягонымі планамі. Цвярозы чалавек намацвае сваю сцежку ў жыцці, адчуў сябе гаспадаром становішча, свабодным і патрэбным чалавекам, удыхнуў водар вольнага жыцця, а не пах смярдзючай брагі. Мне падумалася: спытайце любога п'яніцу, ці змог бы ён паспрабаваць сябе на сваёй справе, ці адчуў бы ён сябе вартым чалавекам, ці асмеліўся б прарваць алкагольную аблаву дзеля вось такога іншага жыцця? Вядома, у тым выпадку, калі б для гэтага былі створаны неабходныя прававыя ўмовы. Ці ўзяўся б ён за чарку? Упэўнены, што нават сярод безнадзейных алкаголікаў знайшлося б шмат тых, хто захацеў бы выкарыстаць гэты, можа іх апошні, шанс...

Раней нам убівалі ў галовы, што мы і ёсць на самой справе гаспадары або кавалі свайго шчасця. Мы верылі, таму што па-сапраўднаму не ведалі, а, дакладней, не паспрабавалі тое, што ж на самай справе значыць быць гаспадаром, быць уладальнікам сваёй справы, мець свой маленькі бізнес, паспрабаваць разгарнуць свае крылы, бо іх раней падразала сацыялістычная ідэалогія і прававая сістэма сацыялістычнага грамадства, дзе ўсе грамадзяне павінны рабіць на дзяржаву, а дзяржава з'яўляецца размеркавальнікам пайкоў, такім чынам выдзяляючы кожнаму кавалак "шчасця па-сацыялістычнаму". У пашане была і застаецца пралетарская існасць, сімвал якой — непазбежная і пастаянная беднасць, а мэта — штодзённае выжыванне. Блакіраваны такім асяродкам чалавек станавіўся бязвольнай, паралізаванай і безгалоснай істотай. Замкнёнае кола не давала яму вырвацца, дыхнуць свежым паветрам, глянуць на свет іншымі вачыма. Можа, і адсюль ідзе пачатак той вялікай смагі, якая ахапіла ледзь не большую частку нашага грамадства. Яна — вынік затхлага рабскага асяродку.

Памятаю, як заклікаў адзін з былых спікераў нашага парламента народных дэпутатаў: "Давайце пастараемся стварыць такія ўмовы, каб чалавек сам захацеў працаваць, каб сам сабе выбіраў справу, каб не было прымусу, а быў сапраўдны стымул для натхнёнай працы для сябе, а гэта значыць, і для дзяржавы". Але фізічна здаровыя людзі ў парламенце аказаліся тады не матадорамі, а быкамі, якія на такую прапанову адрэагавалі, як на чырвоную хустку. Былы спікер для большасці дэпутатаў быў у той час надзвычай моцным раздражняльнікам. А таму дэпутаты не пачулі ісціны, якая лажылася на пачатак вельмі перспектыўнага шляху ў прыстойнае жыццё. Яны тады адстойвалі замкнёнае кола затхлага рабскагаасяродку.

Але вернемся да нашага Ванятκі. Ванятка... зноў запіў. З тае пары пайшоў ужо трэці год...

Што ж яго штурхнула на ранейшы шлях? Неяк прызнаўся, пахмяліўшыся:

— Хацеў уласную справу адкрыць, але раённае начальства на маіх планах паставіла крыж. Сказалі, што такія вольныя майстры ім непатрэбныя. Цябе, сказалі, будзе цяжка пракантраляваць, а таму падаткі ты будзеш плаціць не з поўнага заробку. Ну, і не далі патрэбнай ліцэнзіі на прыватную дзейнасць. Сказалі, што такі парадак.

А цяпер давайце зноў задумаемся над гэтым сумным фактам. Калі б рэформы, пра якія цяпер любяць гаварыць ад самага верху і ўніз па вертыкалі, ішлі прадумана і талкова, то ці перакрылі б кісларод таму ж самаму Ванятку? Чаму да гэтага часу не даюць свабодна раскрыць крылы здольным, майстравым людзям? Чаму душаць расткі фермерства, малыя прадпрыемствы, якія нешта выpабляюць і самі прадаюць? Чаму ўраду становяцца ўпоперак горла тыя людзі і арганізацыі, якія самі хочуць працаваць натхнёна і выніkова, але толькі без прымусу дзяржавы. Яны ж гатовы плаціць падаткі такія, якія не накіраваны на задушэнне іх справы. Але баяцца або раздражняюцца, як тыя быкі, дзяржаўныя чыноўнікі пабудовы "рыначнага сацыялізму" ў асобна ўзятай краіне пад назвай Беларусь. Наколькі мне вядома, і ў вёсцы, і ў горадзе амаль нікога (апроч старых бальшавікоў і кішэнных прэзідэнцкіх парламентарыяў) не турбуе, якое мы грамадства будзем будаваць: сацыялістычнае, сацыялістычна-рынкавае, камуністычнае або капіталістычнае. Ім, простым людзям — і п'яніцам, і цвярозым, трэба адно: даць магчымасць самім рэалізоўваць свае магчымасці, мець, хто здольны на такое, сваю справу, сваю зямлю, рабіць менавіта тую работу, якая прынясе карысць не толькі адной дзяржаве, але і яму, чалавеку-працаўніку. Ды і нарэшце, не старыя ж бальшавікі і чыноўнікі стануць будаваць дзяржаву, а людзі. І вельмі б хацелася, каб сярод іх было больш цвярозых, разумных і працавітых. Як, дарэчы, і сярод чыноўнікаў і кіраўнікоў дзяржавы.

Адным словам, трэба стварыць людзям такія ўмовы, каб выгадна было працаваць сумленна, старанна, натхнёна і было б нявыгадна красці. Вось тады, на мой погляд, будзе вельмі абмежавана верагоднасць кінуцца ў п'янства, заліваць сваю чуллівую славянскую душу сівой і белай гарэлкай, збаўляючыся ад няўпэўненасці, адчаю, несправядлівасці з боку дзяржавы і ад тых кіраўнікоў, якія нам, як дурням, штодня падкідваюць замест канкрэтных спраў адны абяцанкі-цацанкі.

Напаследак прыгадаю адну аксіёму і нашаму ўраду і ўсім чыноўнікам па вертыкалі (незалежна, уверх ці ўніз): п'янства, як і іншыя хваробы, трэба не толькі лячыць, але і ліквідаваць прычыны, якія падбухторваюць нашых людзей піць ад панядзелка да панядзелка замест таго, каб ад панядзелка да панядзелка працаваць натхнёна і плённа, каб хутчэй набліжалася святло ў канцы тунэля, а не бутэлька з мутнай ці празрыстай вадкасцю пад умоўнай назвай "спатыкач".

А жыць аднымі надзеямі на лепшае жыццё і пры гэтым не ўдарыць пальцам аб палец — на гэта здольны толькі адны дуракі, надзейны рэзерв і памочнік п'янага люду.

*в.Мазалі, Маладзечанскі раён.*

## Неофициальные Олимпийские игры. И не только католиков...

В 2000 году в Риме под эгидой католической церкви пройдут неофициальные Олимпийские игры, приуроченные к началу нового тысячелетия, сообщает "Дэйли Телеграф". Игры не стоит рассматривать как месть Рима за проигрыш в конкурсе на проведение очередных Олимпийских игр 2004 года, в котором итальянская столица уступила Афинам, заявил председатель Национального олимпийского комитета Марио Песканте. По его словам, предусматривается лишь проведение соревнований, в которых примут участие лучшие атлеты со всего мира. Как известно, официальные Олимпийские игры 2000 года пройдут в Сиднее.

## "Нью-Йорк Таймс" — самая популярная газета Америки. А в Беларуси?..

Журнал "Тайм" опубликовал свой рейтинг самых интересных с точки зрения информативности и способа подачи материала американских газетных изданий. Как и в 1984 году, когда журнал впервые назвал десятку ведущих газет Америки, лидирующее место заняла "Нью-Йорк Таймс". Самыми "энергичными" ежедневными изданиями "Тайм" признал "Вашингтон Пост", "Уолл Стрит Джорнэл", "Лос-Анджелес Таймс" и "Филадельфия Инкуайрер".

## Обрезание не только желательно. Но и полезно

Американские и британские ученые требуют включить обрезание в число обязательных мер по здравоохранению населения, пишет газета "Таймс". Ученые утверждают, что обрезание позволяет предотвратить заболевание СПИДом, а также некоторыми видами рака. По подсчетам специалистов, обрезание свыше 350 тысяч новорожденных мальчиков ежегодно будет обходиться государству приблизительно в десять миллионов фунтов стерлингов. "Таймс" между тем полагает, что о реальных результатах операции можно будет говорить только через пятнадцать лет после ее проведения.

## Германия "переезжает" из Бонна в Берлин. А Казахстан — из Алматы в Акмолу...

Газета "Джермани Лайв" публикует материал, посвященный предстоящему в ближайшее время переносу столицы Германии из Бонна в Берлин. Газета сообщает, что после переезда правительства в Берлин возникнет целый ряд дополнительных сложностей, которые ранее не принимались во внимание ни архитекторами, ни самим правительством. Газета, в частности, сообщает, что одной из самых больших проблем на сегодняшний день является центральная улица новой столицы, на которой расположена будущая резиденция канцлера Германии. По ней ежедневно проезжает более сорока тысяч автомобилей, и шум от них делает работу в резиденции практически невозможной. Кроме того, проводить официальные приемы в здании, вход в которое находится на такой оживленной улице, невозможно по соображениям безопасности. Закрыть же эту улицу для движения транспорта невозможно. Газета отмечает, что единственным выходом из сложившейся ситуации может стать прокладка автомобильного тоннеля под резиденцией канцлера. Однако такая работа стоит больших денег и может быть закончена не раньше, чем через два года. Где будет трудиться канцлер Коль в течение этих двух лет, пишет газета, неизвестно.

## Талидомид — снотворное не для беременных

Американские врачи представили несколько аргументов в защиту самого непопулярного лекарства двадцатого столетия — талидомида, пишет британская газета "Дейли Телеграф". Напомним, что в 1962 году, после того как вследствие употребления талидомида беременными женщинами в качестве снотворного в мире родилось более десяти тысяч детей с тяжелыми физическими уродствами, распространение этого медикамента было запрещено во всем мире. Однако современные исследования доказали, что талидомид является сильнейшим средством против проказы, кожных заболеваний и лихорадки. По информации газеты, в Америке число больных проказой приближается к семи тысячам, и только 250 из них уже принимают препарат. Газета также отмечает, что, возможно, скоро талидомид появится в свободной продаже. Однако для этого производители сначала должны будут убедить правительство США в том, что они контролируют распространение своей продукции, а также создать специальный комитет по регистрации всех больных, употребляющих талидомид, пишет "Дейли Телеграф".

*Украина*

## Кучма: Украина полностью выполняет обязательства, взятые на себя при вступлении в Совет Европы

После марта 1997 года ни один смертный приговор не был приведен в исполнение, заявил президент Украины Леонид Кучма в Страсбурге (Франция) во время встречи с председателем Парламентской Ассамблеи Совета Европы (ПАСЕ) Лени Фишер.

Как сообщил журналистам по окончании встречи руководитель управления внешней политики администрации президента Владимир Огрызко, Л.Кучма заверил председателя ПАСЕ, что Украина выполняет обязательства, взятые при вступлении в Совет Европы. Л.Кучма направил в Верховный Совет Украины документы о ратификации Протокола № 6 к Конвенции по правам человека, в котором говорится об отмене смертной казни.

Л.Фишер заметила, что в украинской и зарубежной прессе появляется много различной информации по вопросу о применении смертной казни на Украине. То же самое, по ее словам, касается и выступлений политиков, в том числе украинских.

В ответ на это президент высказал удивление недавними заявлениями по поводу смертной казни на Украине бывшего министра юстиции Сергея Головатого. "Почему, если действительно есть проблемы, он не говорил об этом, когда был министром?" — заметил Л.Кучма.

Между тем, по мнению и.о. постоянного представителя Украины при Совете Европы Евгения Перелыгина, Киев выполнил 95% международных обязательств и частично не выполнил, по объективным причинам, внутренние обязательства, взятые на себя при вступлении в СЕ.

По словам Е.Перелыгина, у секретариата и комитета министров СЕ есть официальная информация о том, что все 40 государств — членов организации в 1997 году не применяли смертную казнь.

По словам и.о. постпреда, Украина "практически полностью" подписала и ратифицировала ряд международных договоров, за исключением 6-го протокола Конвенции по защите национальных меньшинств. Что касается внутренних обязательств, продолжал он, то здесь речь идет о принятии концепции правовой политики Украины, Уголовного и Гражданского кодексов.

*Литва*

## Бразаускас и Ельцин договорились подписать пакет двусторонних соглашений, включая документ о делимитации границы

Президенты Литвы Альгирдас Бразаускас и России Борис Ельцин договорились разработать и в ходе предстоящего визита главы литовского государства в Москву подписать пакет двусторонних соглашений, представляющих взаимный интерес, включая договор о делимитации литовско-российской границы.

Как сообщил советник литовского президента по внешней политике Альгирдас Грицюс, в Страсбурге состоялась краткая беседа А.Бразаускаса и Б.Ельцина. По словам советника, российский президент подтвердил, что визит литовского лидера послужит дальнейшему развитию российско-литовских отношений.

Визит А.Бразаускаса в Москву состоится 23—25 октября.

## Альгирдас Бразаускас не будет менять своего решения относительно участия в президентских выборах

Президент Альгирдас Бразаускас подтвердил свое решение не баллотироваться на пост главы государства на второй пятилетний срок.

А.Бразаускас в интервью газете "Республика" подчеркнул, что такое решение он "принял очень ответственно". По словам президента, он "не шарахается", и этот шаг — "не кокетство с бывшими избирателями".

Президент обратил внимание, что его не удовлетворяет "конфронтация между институтами власти", прежде всего между президентом и сеймом (парламентом). В то же время А.Бразаускас высказал сожаление, что не может назвать кандидата, которого бы хотел видеть своим преемником, поскольку законами и традициями Литвы не предусмотрена такая возможность.

На вопрос, чем он будет заниматься после 25 февраля будущего года, когда вступит в должность новый президент, А.Бразаускас ответил: "Найду чем заняться — ведь в Литве 680 тысяч пенсионеров, все они живут". При этом он не исключил возможность заняться международной деятельностью, выполнять какие-либо миссии. "Возможны различные варианты, но пока никто ничего не предлагал", — сказал А.Бразаускас.

По мнению местных обозревателей, имеющий реальные шансы выиграть назначенные на 21 декабря выборы, А.Бразаускас основной причиной отказа баллотироваться вновь назвал то, что он "видит себя на посту президента с такой политической биографией, имеет возможность сравнить себя с президентами других стран Центральной Европы, в которых 50 лет была похожая политическая ситуация" (А.Бразаускас некоторое время был первым секретарем ЦК Компартии Литвы.— **"ИФ"**).

*Российская Федерация*

## Москва не рассматривает отношения с Европой в ущерб отношениям с США и наоборот

Инициатива руководителей России, Франции и Германии о проведении регулярных трехсторонних встреч является вполне "логичной" и не может рассматриваться как противовес другим направлениям внешней политики Москвы. Об этом заявил пресс-секретарь президента РФ Сергей Ястржембский.

"Мы подошли к такому этапу, когда явно увеличилось количество вопросов, представляющих равный интерес для трех государств", — отметил пресс-секретарь, выразив надежду, что от проведения таких саммитов "польза будет и для всей Европы, и для трех наших стран".

**К сведению.** Губернатор Свердловской области (Урал) Эдуард Россель в интервью "Интерфаксу" заявил, что предложение президента Франции Жака Ширака провести встречу лидеров России, Франции и Германии в Екатеринбурге, имеет большое значение для региона. Губернатор заверил, что Свердловская область будет вполне готова к приезду высоких гостей и сможет обеспечить необходимые условия и с точки зрения безопасности, и с точки зрения создания достойных условий для приема президентов и канцлера.

Э.Россель сообщил, что еще во время встречи с президентом Борисом Ельциным в конце сентября в Кремле они договорились о визите главы российского государства и президента Франции в Свердловскую область в сентябре 1998 года на празднование 275-летия Екатеринбурга и 400-летия духовной столицы Урала, старейшего уральского города Верхотурье. По мнению губернатора, возможное посещение региона канцлером ФРГ ускорит открытие консульства Германии в Екатеринбурге, запланированное на 1998 год. По словам губернатора, он намерен обратиться к президенту Франции с предложением открыть в Екатеринбурге к его приезду французское консульство.

## ...И будет лучший в мире самолет!

Президенты Украины и Франции Леонид Кучма и Жак Ширак в ходе встречи в Страсбурге обсудили возможность создания консорциума по производству самолета АН-70.

Ранее украинский лидер передал президенту РФ Борису Ельцину письмо, в котором предложил совместно обратиться к лидерам Франции и Германии с предложением создать консорциум по производству военно-транспортных самолетов АН-70.

По словам Л.Кучмы, в ходе встречи президент Франции высказал уверенность в том, что этот самолет по своим характеристикам — будет лучшим в мире.

Л.Кучма выразил надежду, что "этот проект удастся довести до логического конца".

**Справка "Интерфакса".** Серийное производство нового военно-транспортного самолета АН-70 может начаться уже в конце этого года. Объем затрат на организацию серийного производства, в котором примут участие свыше 100 российских и не менее 20 украинских предприятий-смежников, оценивается в сумму около $150 млн.

АН-70 считается рядом экспертов реальной альтернативой западноевропейскому проекту "Future Light Aircraft", работы по которому только начинаются.

**По материалам "Интерфакса".**

Стоп-кадр

## Состязались заклинатели

**В городе Кангаре в Северной Малайзии недавно состоялись соревнования заклинателей змей, победителем в которых вышел Отман Аюб. Ему вручен денежный приз в размере 515 долларов.**

**На снимке:** *победитель целует кобру длиной 4,5 метра.*

**Фото Рейтер.**

Демографический перекос

## На Юге рождается все больше людей, на Севере — все меньше

Еще 40 лет назад эксперты Организации Объединенных Наций предсказали: в 2000 году число жителей Земли составит 6 миллиардов человек. Тогда этот прогноз вызвал шок — так много! Сегодня, более чем за тысячу дней до нового века и нового тысячелетия, Французский национальный демографический институт подтверждает этот давний прогноз. Действительно, в 2000 году землян будет 6 миллиардов 90 миллионов. А еще через сто лет нас станет почти 11 миллиардов. Демографы утверждают, что именно на этой цифре рост населения Земли прекратится.

В мире происходит явный демографический перекос. Население быстро растет в развивающихся, бедных странах и крайне медленно — в развитых, богатых. В том же 2000 году в первых будет жить 5 миллиардов, во вторых — чуть больше миллиарда. А в XXI веке ожидается новый демографический взрыв в странах Юга: на них придется 95 процентов всего прироста населения.

Как будет выглядеть уже в недалеком 2000 году демографический раздел мира? В северной части — Европе и Северной Америке — окажется всего 16 процентов населения нашей планеты. Его подавляющее большинство придется на Азию (61 процент), Африку (13 процентов), Латинскую Америку (8 процентов) и Океанию (0,5 процента). Любопытно, что, по подсчетам индийских специалистов, по числу жителей Индия обгонит Китай к 2040 году и окажется первой в мире страной по численности населения.

С этим прогнозом согласны и их французские коллеги.

Быстро уменьшается число сельских жителей. Уже в 2000 году на их долю придется 47,5 процента населения. Зато стремительно растут города. На рубеже двух веков их табель о рангах будет выглядеть таким образом. Первенство прочат Токио с его 28 миллионами человек. На второе место выйдет Бомбей (сейчас его в Индии называют по-новому: Мумбай). Число жителей составит там 18 миллионов. Почти по столько же будет жить в Шанхае и бразильском городе Сан-Паулу. Нью-Йорк и Мехико вберут в себя по 16 миллионов. Пекин, как и Джакарта, будет насчитывать 14 миллионов. Так что и тут приоритет за мегаполисами южных стран.

Европа существенно "постареет". Например, каждому пятому французу в 2000 году будет за 60. Заметно возрастет и число тех, кому перевалит за 85. Вообще в Европе (без России) уже в 2005 году пожилых людей будет больше, чем молодых.

**Николай ПАКЛИН.**
*("РГ")*

Дайджест

## Япония сможет участвовать в военных конфликтах. На стороне США

США и Япония согласовали изменения в тексте договора о взаимной безопасности, сообщает "Рейтер". В соответствии с ними Япония впервые после окончания второй мировой войны сможет принимать ограниченное участие в военных конфликтах за границей при условии, если в них вовлечены Соединенные Штаты. Конкретно участие Японии будет выражаться в участии ее военных кораблей в спасательных операциях в международных водах, проведении инспекций при обеспечении эмбарго ООН, предоставлении своих гражданских портов, аэродромов и госпиталей для нужд вооруженных сил США. В то же время, в соответствии с Конституцией Японии, которая запрещает участие в военных действиях, японские войска по-прежнему не будут принимать участия в боевых операциях, а японская инфраструктура не будет задействована для снабжения американских войск боеприпасами и оружием. Однако эти изменения оборонного соглашения вызвали резкое неприятие соседей Японии — Китая и других государств Восточной Азии, пострадавших от японской агрессии в первой половине нашего столетия.

## Лучшие кроссовки Хилла из фирмы "Фила"

Фирма "Фила", занимающая третье место на американском рынке кроссовок, подписала рекламный контракт на сумму 80 миллионов долларов со звездой Национальной баскетбольной ассоциации Грантом Хиллом из "Детройт Пистонс". Контракт рассчитан на 7 лет. По условиям контракта, Хилл должен помогать продвижению на рынок кроссовок и одежды для занятий спортом, а также советовать "Фила", с какими спортсменами ей стоит подписывать рекламные контракты. Помимо кроссовок, Грант Хилл рекламирует напиток "Спрайт", автомобили "Дженерал Моторс", закусочные "Макдональдс" и многие другие товары и услуги. Эксперты отмечают, что сумма контракта Хилла сравнима с той, что получает другая звезда НБА — Шакил О'Нил, который имеет контракт с американским производителем кроссовок номер 2 "Рибок". Однако далеко впереди находится Майкл Джордан, который рекламирует кроссовки и спортивную одежду фирмы "Найк". Он получает 20 миллионов долларов в год.

## Детская психика "извращена". Практичностью

Газета "Экспресс" публикует материал, посвященный проблемам немецкой молодежи. Газета сообщает, что немецкие психологи постоянно высказывают обеспокоенность тем, что моральные ценности подрастающего поколения за последнее время претерпели значительные изменения. Газета отмечает, что немецких детей больше не волнуют игрушки и развлечения со сверстниками. Результаты многочисленных социологических опросов показывают, что дети уже в самом раннем возрасте обеспокоены прежде всего тем, чтобы не остаться без работы, когда они вырастут, получить хорошее образование и достаточное социальное обеспечение. Газета также высказывает мнение, что в подобном извращении детской психики полностью виновато правительство страны, которое не может обеспечить стабильную жизнь не только взрослой части населения, но и детям.

## Немецкие психологи "поощряют"... нерадивых. Школьников...

Дети, которые получают в школе плохие отметки, становятся позже самыми лучшими работниками и руководителями. По информации "Франс Пресс", с таким заявлением выступили недавно немецкие психологи. По мнению ученых, дети, которые плохо учатся, просто не раскрывают всех своих возможностей. Поступив на работу, они получают возможность приложить на практике полученные знания и увидеть реальный результат своей работы. Возможность увидеть на практике результаты своего труда, которые не могли проявиться в школьных теоретических знаниях, становится, по мнению ученых, таким большим стимулом, что молодые люди показывают высокие результаты в работе и быстро становятся ведущими специалистами в избранной ими области.

## Двести тысяч памятных иллюстраций матери Терезы

Итальянская еженедельная детская газета "Иль Джиорналино" опубликовала на своих страницах комикс, посвященный памяти одной из самых известных и почитаемых в мире женщин — матери Терезы, сообщает агентство "Франс Пресс". Комикс состоит из сорока иллюстраций и рассказывает о наиболее важных этапах жизни и миссионерской деятельности матери Терезы. Тираж "Иль Джиорналино", по информации агентства, составляет всего двести тысяч экземпляров.

**Подготовила Светлана РОСТОВА.**

